ПАНЯДЗЕЛАК 6 КАСТРЫЧНІКА 1919 г. Цана 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ілюстраваная часопісь выходзіць у Вільні раз у тыдзень.

ГОД I. ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год — 24 м., на 6 мес. — 12 м., на 3 мес. — 6 мар. № 16.

✝

У КАСЬЦЕЛІ сьв. ЯНА у панядзелак 6 кастрычніка а гадз. 10 с паловай раніцы за душу сьв. памяці

**ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА**

АДБУДЗЕЦЦА ЖАЛОБНАЯ ІМША.

## БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА.

**(Гутарка з старшынёй беларускіх міністраў).**

Карыстаючыся бытнасьцю ў Вільні старшыні беларускіх народных міністраў п. Антона Луцкевіча, мы зьвярнуліся да яго з рознымі пытаньнямі датычна беларускай справы. П. Луцкевіч вельмі ахвотна даў нам адказ на ўсе нашы пытаньні, і рэзультатамі нашай гутаркі мы дзелімся з нашымі чытачамі.

### БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ і АНТАНТА.

У справе адношэньня Антанты да Беларусі п. Л. сказаў нам вось што:

„На мірнай конфэрэнцыі ў Парыжы ўстаноўлена нейкае асаблівае адношэньне да новых дзержаў, якія тварыліся з колішніх расейскіх «акраін» без благаславенства Антанты. Есьць нават асабліваe названьне для гэнага адношэньня: называецца яно „фактычным прызнаньнем". А гэта значыць: з урадамі новаўтвораных дзяржаў Антанта вядзе перэгаворы, прадае ім патрэбныя тавары, як «юрыдычным асобам» і г. д., хаця ніякіх афіцыяльных заяў аб прызнаньні іх такімі «юрыдычнымі асобамі» ня робіць.

У гэтакім палажэньні знаходзяцца ўсе нашы найбліжэйшыя суседзі (апрача Польшчы)—літвіны, латышы, украінцы. У такім-жа палажэньні знаходзіцца і Беларуская Народная Рэспубліка.

Так, з нашай дэлегацыяй на Мірную Конфэрэнцыю лічацца зусім афіцыяльна — так сама, як з дэлегацыямі іншых новых дзержаў, „фактычна прызнаных". Дыплёматычныя пашпарты, выдаваныя беларускім урадам, прызнаюцца важнымі ўсімі тымі дзяржавамі, да якіх нашым прэдстаўнікам даводзілося езьдзіць, як-то: Францыяй, Швэйцарыяй, Чэхіяй, Польшчай, Нямеччынай і Аўстрыяй, якія даюць нам так званыя дыплёматычныя візы. Ведама, прызнаюць і ўсе «няпрызнаныя» дзяржавы, як Латвія, напалову-прызнаная Эстонія, Украіна, Літва. Але найважней—гэта тое, што з беларускім урадам робяцца фармальныя ўмовы аб куплі для нашай Бацькаўшчыны патрэбных тавараў.

### «СФЭРЫ ЎПЛЫВАЎ».

На Мірнай Конфэрэнцыі была ўтворана асобная „Балтыцкая камісія" дзеля спраў новых дзяржаў, зьвязаных з Балтыцкім морам.

Беларуская Дэлегацыя, уважаючы, што справа Беларусі безумоўна павінна быць разгледжана ў зьвязку з справай яе Балтыцкіх суседзяў, зьвярнулася да тэй камісіі з прозьбай прыняць пад увагу інтарэсы Беларусі на Балтыцкім моры. Аднак тут мы сустрэліся першы раз з фактам устанаўленьня „сфэр уплываў" вялікіх дзяржаў на колішніх расейскіх землях. Паводлуг гэтага разьдзелу Літва, Латвія і Эстонія апынуліся ў межах англіцкага ўплыву, а Беларусь разам з Польшчай і Украінай—у межах францускага.

Лічу патрэбным адзначыць тут асабліва гэты факт: ён можа мець сур'ёзныя пасьледзтвы для Беларусі ў будучыні.

### ЗАБАСПЕЧАНЬНЕ ФРАНЦЫІ.

У францускіх палітычных кругах пануе пагляд, што Нямеччына, ня гледзячы на часовы занепад, ўсё-ж такі ізноў можа хутка стануць на ногі і быць новай пагрозай для Францыі, асабліва тады, калі-б немцам удалось зрабіць хаўрус з Расеяй. З гэтай прычыны францускія палітыкі зыходзяцца на тым, што да такога хаўрусу ніяк нельга дапусьціць...

Разыходзяцца думкі толькі ў паглядзе на тое, якім спосабам можна перашкодзіць нямецка-расейскаму збліжэньню. Адны кажуць, што Антанта павінна **сама** ўзяцца за адбудову „единой, недѣлимой“ Расеі, бо толькі тады яна здолее тую Расею трымаць у сваіх руках і не дапусьціць запанаваць у ёй немцам. Другія даводзяць, што ніякім спосабам нельга гэтага ўсьцерагчыся, калі Расея будзе ізноў у даўнейшых межах (апрача Польшчы і Фінляндыі) дый будзе граічыць з Нямеччынай. Вось гэны другі кірунак хацеў-бы, каб Расея ня была такая вялікая і дужая, як калісь; ён і кажа, што быўшых расейскіх зямель (у тым ліку і Беларусі) назад пад расейскае панаваньне аддаваць нельга, а трэба, каб яны між сабой зрабілі саюз, які мурам адгарадзіў-бы Расею ад Нямеччыны.

Каторы з гэтых кірункаў перэважыць у Францыі—гэтага да выніку новых выбараў у парлямэнт нельга ведаць. А пакуль-што гэткая нявыразнасьць аснаўной палітычнай лініі — дужа благая для ўсіх зацікаўленых у гэтым народаў.

### БЕЛАРУСЬ І РАСЕЯ.

З таго, што ўдалося выясьніць у Парыжы, дзе цяпер знаходзіцца цэнтр і расейскай небальшавіцкай палітыкі, — усе расейскія палітычныя группы гавораць аб Беларусі, як аб асобным краю, катораму суляць у будучыні аўтаномію ў фэдэрацыйнай Расеі, паскольку гэта пастановіць усерасейскі ўстаноўчы сход. Сазонаў аб гэта зусім выразна заявіў на страніцах англіцкай газэты „Times“ (23 ліпня сёл. году). З гэтай прычыны расейскім палітыкам не ўдалося ніяк згаварыцца з урадамі новых дзяржаў, і тыя нават зрабілі супольную заяву Мірнай Конфэрэнцыі, што не прызнаюць над сабой накіданай зьверху „усерасейскай улась-ці“, якая-б яна ні была, а могуць гаварыць з Расеяй толькі як роўны з роўным — ад іменьня сваіх устаноўчых сходаў. Гэту заяву падпісалі прэдстаўнікі Беларусі, Украіны, Латвіі, Эстоніі, Паўночнага Каўказу, Грузіі і Азэрбайджану. (Літоўская дэлегацыя адмовілася падпісаць гэту дэклярацыю).

### БЕЛАРУСЬ І ПОЛЬШЧА.

Факт, што частка Беларусі, вызваленая ад бальшавіцкага панаваньня, занята цяпер палякамі, а так сама той факт, што Беларусь знаходзіцца ў межах тэй жа францускай сфэры ўплыву, што і Польшча,—лішне сур'ёзны, каб беларусы маглібы з ім не рахавацца, калі-б нават не было йшчэ іншых прычын дзеля гэтага. Ці то ў стварэньні свайго войска, якое павінна адваеваць ад Савецк. Расеі рэшту Беларускіх зямель, ці то ў арганізацыі краю, ці ў справе склікaньня устаноўчага Сойму Беларусі,—усюды работа беларусаў сустрэкаецца з польскай удалай. Натуральна, што беларусам прыходзіцца асабліва цікавіцца адносінамі палякоў да справы будаваньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

За час маей бытнасьці ў Варшаве мне ўдалося выясьніць вось што:

Пад той час, як непапраўныя эн-дэкі далей сьняць сны аб разьдзеле Беларусі між Польшчай і Масквой, — ні Начальнік Польскай Дзержавы, Пілсудскі, ні Польскі урад ні польскія соцыялісты і дэмократы ані ня думаюць аб гэтакім разьвязаньні справы, лічучы, што ў інтарэсах супакою на Усходзі **Беларусь павінна істнаваць—цэлая і непадзельная.** А раз гэта так, дык ёсьць надзея, што беларусам удасцца знайсьці спосаб пагадзіць інтарэсы свайго дзяржаўнага будаўніцтва з інтарэсамі Польшчы. У якой форме гэта можна было-б зрабіць, пакуль-што не бяруся казаць. На гэту тэму цяпер многа пішуць варшаўскія газэты, выходзіць багата брашур і т. д.

Думаю, што хуткае склікaньне Рады Рэспублікі ў Менску паможа ўсё гэта выясьніць і прыступіць да хутчэйшай арганізацыі войска і краю наагул, — асабліва-ж дзеля склікaньня Устаноўчага Сойму Беларусі, які найляпей здолее выявіць волю Беларускага Народу.

# З газэт.

Беларускі „Звон“ піша:

„Нам часта даводзіцца чуць, што людзям расейскай культуры не падабаецца нашая палітычная орыентацыя; ім не п а д а б а е ц ц а, што мы шукаем дапамогі для адбудаваньня Бацькаўшчыны ў нашай суседкі з Заходу - Польшчы. з каторай Беларусь, у палітычнай адзінцы Вялікага Князьства Беларуска-Літоўскага, кепска ці добра, але дабравольна жыла на працягу сотак год, пачынаючы ад вял. кн. Ягайлы аж да падзелу Рэчы Паспалітай паміж суседнімі дзяржавамі.

Нас гэта ня дзівіць, бо мы разумеем,

што вуснамі гэтых людзей падсьвядома гаворыць самы звычайны маскоўскі імпэрыялізм. Але адкуль-жа трапіў да іх гэты маскоўскі імпэрыялізм? Праз школы,— праз тыя царскія школы, каторыя на працягу сотні год гаварылі кожнай кніжкай, кожным падручнікам, што Беларусі няма і ніякіх беларусаў ня было, што ёсьць толькі Северо - Западный край і польская інтрыга. Праўда, былі падобнага роду гутаркі і з другога боку, з боку Польшчы, толькі там гаварылося, што Беларусь з Літвою — гэта Усходніе крэсы, але з маскоўскай інтрыгай.

Чым-жа ўсё гэта вытлумачыць, з якой крыніцы выцякаюць такіе гамонкі? Гэта тлумачыцца бязупынным змаганьнем нашых суседак за Беларусь і Літву, гэта выцякае з гістарычнай боркі Масквы з Беларусьсю. Сама па сабе Польшча ніколі не ваявала безпасрэдна з Масквою,—ваявала з ёю Беларусь у асобе Вел. Кн. Беларуска - Літоўскага, але з таго часу, як нашы князі сталі і польскімі каралямі, то змаганьне Масквы з Беларусьсю адбывалося пад штандарам Польшчы, прынамсі у вачох цёмных, неадукованых маскоўскіх палітыкаў, каторыя перадалі свой погляд і сучасным расейскім гісторыкам, а тыя, у сваю чаргу, усяму расейскаму грамадзянству і усім, хто меў стычнасьць з Маскоўшчынай. Гэта гісторыя падобна да царкоўных кніг, што былі папсованы бязграматнымі маскоўскімі перапісчыкамі. Гэтага-ж погляду, утворанага маскоўскай гістарычнай бязграматнасцью, трымаецца і частка тых беларусаў, каторыя баяцца Польшчы, як бык чырвонай хусткі, і каторым не падабаецца нашая палітычная орыентацыя. Гэта зьяўленьне гістарычнага змаганьня, пераблутанага расейскімі гісторыкамі не без каманды свайго ураду дзеля свайго імпэрыялізму“...

* * *

„Nasz Kraj“ друкаваў уражэньні з падарожы па Ашмяншчыне п. Я. Пржэсмыцкага. Мы перадрукоўваем колькі характэрных кавалачкаў:

„На пляцу затрымліваю грамадачку людзей, пытаюся, што чуваць.—Беда, паночку— кажуць—на каровы пераменіліся, траву емо, папухшы паміраем... Ат, воля боска.

— Ніхто вам нічога не раіць?

— Есьць, паночку, зьбірае ён нас тутака і Дом Людовы наладжывае... Вось колькі месяцаў нас клічуць, дык што паночку! Калі-б да хлеба клікалі, хутчэй прыйшлі-б. Але іх ужо за гэта бальшавікамі называюць...

— Дык-жа маеце паветовага Камісара, можэце жаліцца.

— Ня дапускаюць да яго, паночку. А можа гэта пераменіцца?

Можа?

. . . . . . . . . .

Гольшаны...

— А як там у Варшаве? кажуць што ў Сойме ёсьць мужыкі, навет парабкі, ці гэта праўда?.. А ці там ведаюць, што тутака прывозяць жандараў, людзей бьюць, у турмы содзяць? Ці там у варшаўскім Сойме ведаюць аб тым, што калі хто з нас хоча пажаліцца камісару, дык прыкладам дастане? Ці і там так сама?

. . . . . . . . . .

Я паехаў далей. Пропуск, мост, апусьцеўшая манаполька, апусьцеўшая бальніца,— неўспаханае поле,—бярозы...

На дарозе затрымлівае мяне кучка кабет.

— Парай, паночку, да каго з жальбой у Вільню?

— А ў якой справе?

— Пабілі нас, паночку, пабілі бізунамі, жандары пабілі, — пан Чапскі прыслаў па астаткі нашага дабытку, хацеў ўсё забраць, мы прасілі, каб злітаваўся, а яны нас бізунамі. Мы чулі, што пан Пілсудскі быў у Вільні і казаў бараніць бедных, дык мы йдзем прасіць,—бо тут нас гоніць рэвіровы, гоніць пан, гоніць жандар, а ў камісара толькі графы ды паны, а нас бядоту ён часу ня мае прыняць, а і паліцыянт гоніць ды ругаецца,—дык мы ў Вільню...

# ПОЛЬСКА--БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВО.

У палавіне траўня (мая) гэтага году па ініцыятыве прабываўшых у Варшаве палякаў і беларусаў зрадзіліся закладзіны Польска-Беларускаго Таварыства.

Бачучы факт асвабаджэньня польскімі войскамі беларускіх зямель з пад бальшавіцка-маскоўскага ярма і гледзячы на цэлы рад эканамічных, культурных і палітычных інтарэсаў, якія злучаюць Беларусь з Польшчай, ініцыятары Польска-Беларускага Таварыства прыйшлі да таго, што мэтаю гэтае арганізацыі павінна быць: здабыць якнайцясьнейшае супаль-

нае палітычнае жыцьцё Беларусі з Польшчаю, абапёртае на падставе „вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі“. —

Дзеля гэтага Таварыство мае мэтаю:

а), завязаньне якнайцясьнейшай прыяцельскай лучнасьці паміж народам польскім і беларускім;

б), шырэньне сярод польскага грамадзянства усестароньняга і грунтоўнага знаёмства з Беларусяй, а сярод беларускага грамадзянства — з Польшчай;

в), прапаганду ідэі цеснай зьвязі Польшчы з незалежнай Безарусяй, шырэньне згодна з гэтай падставай прыхільнага і спагаднага погляду публікі ў Польшчы і Беларусі;

г), дапамогу з боку Польшчы на аснове гэтых адносін той працы і рабоце сярод беларускага народу, каторым сьвеціць шчыры, вытрывалы і сумлены цяг да цеснай лучнасьці вольнае Беларусі з вольнаю Польшчаю — як з культурнага боку так і экаміначнага, а яшчэ больш палітычнага.

Таварыство пасьля зарганізаваньня свайго склікало ўжо рад сходаў, маючых мэтаю абгаварыць найхутшэйшыя патрэбы цяперашняга часу.

Паміж іншымі сваймі работамі яно выдало да грамадзянсва Беларусі адозву, абясьняючую мэту, і значэньне паходу польскага войска на ўсход. У хуткім часе яно думае пачаць у польскай і беларускай прэсі акцыю, маючую мэтай выясьніць найважнейшыя постуляты, без якіх ня можа абыйсьціся польска-беларускае зьліжэньне; думае яно так сама адчыніць колькі сваіх аддзелаў на Беларусі, а ў першы чарод у Менску.

На Варшавскім грунце Т-во наладжывае гутарныя і дыскусыйныя вечары, якія склікаюцца што тыдзень: у аўторкі а гадз. 8 веч. ў сялібе Злучэньня Дэмократычных Староннікаў (Шпітальная 1 кв. 3).

Да Ураду Т-ва увайшлі: Міраслаў Обезерскі (старшыня), Лявон Дубейкоўскі (віцэ-старшыня), Канстанцін Гордзялкоўскі (пісар і скарбнік), Павал Алексюк, Вацлаў Цывінскі, Тадэуш Галоўко, Чэслаў Янкоўскі, Александар Ледніцкі, Раман Скірмунт, Б. Тарашкевіч, Эдвард Войніловіч.

Запісы ў сябры Т-ва прыймаюцца на сходах (сабраньнях) у аўторкі, а ў іншые дні, апроч сьвят — на Доўгай вул. 50, пакой 514.—

## Дзьве долі.

Расьце бярозка сярод поля,
У далі ад лесу, сіратой;
Жыве песьняр с сваей нядоляй,
С сваей маркотнаю душой.

Ваюе з бурамі бяроза,
Мароз, слата сячуць яе;
Песьняр з непраўдай бьецца ў сьлёзах,
За ўсіх цярпіць, для ўсіх пяе.

З. БЯДУЛЯ.

# СЬМЕРЦЬ ПАНІ.

— Але-ж і ночка цёмная, крый Божа!— кажа стары лёкай, з апаскай касуручыся на цёмнае вакно, што глядзіць, нібы спуджанае бязколерное воко, у вільготны васеньні сад. Лёкай сядзіць ля маленькаго століка ў кутку, дзе пад сьвятым абразом блішчыць лампадка. У мосенжовым ліхтарыку на століку стаіць стэарынавая сьвечка і яе дрыжачае зьяньне пад столям пераліваецца ў жоўтыя плямы, якія кідаюць таёмные цені на сьвятыя абразы на сьценах. Пад отсьветам сьвечкі цёмныя лікі сьвятых выступаюць з рамак. Вуглаватыя, выцягнутыя твары іх строга пазіраюць на палуцёмны пакой і здаюцца жывымі ад цянёў атсьвету, што кратаюцца па іх.

Здаецца, застыў стары лёкай на сваім мейсцы ля століку. Застыў яго згорблены цень на сьцяне. У гэтым полузмроку вельмі вызначаецца голы блыскучы чэрап старога лёкая і белыя, як сьнег, бакены. Мутныя, бязколерныя вочы яго глядзяць у адзін пункт—на маятнік сьценнага гадзінніка, каторы рытмічна ківаецца з боку ў бок між двох блыскучых жоўтых вагаў. Ніжняя старчая губа апускаецца ў лёкая і ён знаходзіцца ў полудрэмоце. Раптам ён падскаківае с свайго мейсца і крадучыся, на цыпачках соваецца да дзьвярэй, якія вядуць у паніны пакоі. Сваю галаву і шыю ён высовывае ўпярод с свайго зашмальцаванага чорнага сурдута, як с чэрапашага панцыра. Ён туліцца адным вухам да дзьвярэй і пільна прыслухоўваецца, прытаіўшы дыханьне.

— Ціха. Нічога ні чутно, крый Божа...— шэпча ён, — і па ўсяму відаць, што памрэ. Сьмерць так і чуецца тут...

Ён агледаецца па бакох апасліва. Жэгнаецца. Вертаецца на сваё мейсцо да століка. Седае зноў на стул. Ніжняя губа у яго дрыжыць. Увесь ён устрывожаны і апускае рукі на вострыя калені, каб ні дрыжэлі.

— А спаць легчы я не магу. Крый Божа-ж трэба чакаць дохтара... — гавора ён

З бярозкі сьвежія галіны
Зрывае вецер, коце ў даль,
А песьняровы думкі гымны
Ламочэ крыўда, горэ, жаль.

Жыла бярозка, годзе жыці:
Сячэ на дровы дравасек...
Ідзе песьняр пад дзерн злажыці
Сваю галаваньку на век.

Бярозка ў печы ўжо вуглямі—
Дымы пад неба ўжо бягуць...
Памёр песьняр, забыт людзямі,
А песьню ўсе яго пяюць.

**Янка Купала.**

## СЯВЕЦ.

На заўтра, к палецьцю
Свой сею загон,—
Ад бацькі прыкмеціў
Так сеяць, як ён.

Лубянку-севалку
Дзед сплёў мне даўно,
У севалцы без малку
Бурштын-сам зярно.

Знаток сваей рэчы,
Іду к старане,
Каб вецер у плечы,
Ня ў вочы дзьмуў мне.

Прывычнаю жменяй
Зерняты кладу, —
Дзе болей, дзе меняй —
Сьляджу на хаду.

Сьляджу, каб абсевак
Ня кінуці дзе,
Бо з ім неспадзевак
Благіх шмат ідзе.

Кулёвай саломай
Дасеў прысьцялю,
Ад злога залома
Сяўбу бласлаўлю.

Ляжыце, зернята,
У парадак, у рад,
Усходзьце багата,
Каб сейбіт быў рад.

Абходзь, ты, наўкола
Рунь, Юр'я Сьвяты!
Ты, добры Мікола,
Пільнуй ад слоты!

Дай, хмарка-вясёлка,
Жывучай расы,

сам с сабою. У яго голасе чуецца крыўда на кагосьці. Ён чуе крыўду ў тым, што нельга яму легчы адпачыць; хаця ён добра ведае, што ўсё роўна спаць ня будзе, бо нейкія новыя трывожныя думкі ніпакоюць яго па начох с таго самаго часу, як паня захварэла.

Аб чым задумывацца ёсьць:

Не дай Бог, калі паня памрэ, дык яго малады паніч пусьціць на ўсе чатырэ староны. Той ужо толькі гэтага і чакае, каб усю чэлядзь выгнаць—і яго, лёкая, і ахмістрыню, і фурмана Сымона, гэтага ціхага добрага чалавека, якога паня пры сабе трымае ўжо ад яго маленства. Нават і парабкі так-сама трывожуцца, бо маладому панічу натта ужо не падабаюцца цяперашнія паніны парадкі і ён нават з роднай маткай папрашчацца цяпер не прыезжае. Чакае яе сьмерці, каб тады толькі прываліць сюды і перэвярнуць ўсё да гары нагамі.

Ад нуды лёкай бярэ шчотку і пачынае зьметаць пыл са сьцен і абразоў. Раптам адчыняюцца дзьверы с пакояў і паказываецца тоўстая з дубэльтовай барадою ахмістрыня Анэта, якая зьвініць ключамі.

Ён хутка падскаківае да яе і пытаецца:

— А як пані, крый Божа?

— Эт, тое самае. Нічога, апрача вады, у рот не бярэ. О, матухна Божая, што-ж гэта будзе з намі, як яна памрэ?—Ахмістрыня так ламае рукі, што ажно суставы ў пальцах трышчаць. — А помніш, як учора Мурза пад вакном выў?—кажа яна далей.

— Гэта нешта нядобрае паказывае, крый Божа.

— Сьмерць...

— Сьмерць...

— ?..

— ...

Лёкай і ахмістрыня са страхам узіраюцца адзін у аднаго, потым агледаюцца па баках палузмрочнага пакою. Яны чуюць жудасьць у гэтым ціхім пакою, атуляным ночай, за сьценкай якога стучыцца сьмерць.

— Крый Божа...—шэпча лёкай.

— Страшна...—кажа ахмістрыня.

— Анэта! Анэта!—чуецца с пакояў ась-

Маланкай-агнёўкай
Ня зводзі красы!

Свой град, Градавіца,
У пару сутрымай!
Пярун, Грамавіца,
У жніво сунімай!

20/XI—18 г. **Янка Купала.**

# НАШЫ ПІСЬМЕННІКІ.

Аўтор «Руні», «Антона», «Генэрала», «Маці», «Зімы», «Панскай сучкі», „Дзьвёх Душ“, «Кроснаў» ды інш. апаведаньняў прозай, недаўна надрукаваў беларуска-маскоўскі слоўнік.

Цяпер Максім Гарэцкі піша гісторыю беларускай літэратуры.



**М. Гарэцкі.**

# ДЗЯЎЧЫНЕ.

Твае вочкі — васілёчкі,
Твае броўкі — матылёчкі,
Твае губкі — ляпясточкі,
Твае шчочкі — мак-цьвяточкі.
Рутай пахнуць валасочкі.
Твая шыйка — шоўк бялюткі,
Як галубкі, твае грудкі.
Ты уся, як кветка Божа,
Што красой усіх варожа.
На цябе дзіўлюсь, на сонцо.
Маю шчасьце я бяз конца
Любавацца так табою,
Тваей дзіўнай пекнатою.
Любавацца як бярозкай,
Як бліскучай, чыстай роскай,
Што на траўках і на кветках
Разсыпаецца ў палетках.
Любавацца як зарніцай,
Як сярэбранай крыніцай,
Нібы песьняй салаўінай,
Што ліецца над лагчынай.
О, шчасьліва та даліна,
Дзе радзілась ты, дзяўчына!

VI—1919 г. Пасадзец. **Ясакар.**

---

цярожны нігромкі голас. Ахмістрыня ідзець на кліч пакаёўкі і спатыкаецца з ёю у дзьвярох, ледзь лбамі не ўдараючыся.

— Ну, як? — пытаюцца лёкай і ахмістрыня.

— Э, чаго тут пытацца! ляжыць бедная ды канца чакае—адказывае маладая пакаёўка,—а ты, Анэта, ідзі хутчэй туды, да пані.

Анэта выходзіць, а пакаёўка астаецца з лёкаем. Моўчкі седае яна каля століка і зморэная апускае галаву на абедзьве рукі над сталом.

— Што, змарылася, Ганулька, крый Божа?—учасьліва пытаецца лёкай, кладучы ей сваю руку на галаву.

— Ой, дзядок, і не гаворы нават. Другі тыдзень ня сплю па начох. Паня мяне не адпускае ні на крок: то ей вады падай, то лекарство балтай, то падушку папраў, то коўдра ўпадзе. Ей, беднай, усё кепска. Але цяпер, во, яна троху паспакайнела. Заснула я там ля пані напроціў, на канапе, і сьнілася мне адразу сьмерць з голым чэрапам, з ямінамі замест воч, с касою у касьцістых руках. Стаіць у галовах ля пані ды усьміхаецца. Мне так жудасна зрабілася, што я крыкнула ды прачнулася... Не, я заўтра ткі уцяку адгэтуль у вёску да сваіх бацькоў.

— О, дзеткі, ня можна гэтак, бо грэх будзе, крый Божа, — ніхто болей як ты ня можаш яе дагледаць, а паня добрая. Грэх будзе, крый Божа!

— Добрая дык добрая, але мне тут страшна,—сьмерць так і чуецца па ўсіх пакоях. Анэгды сядзела я а поўначы ля пані. Паня дрэмала. Вакол было так ціха, ажно чую нехта шарахціць ў цёмным кутку пад канапай. Я спалохалася і крыкнула. Паня прачнулася, а спад канапы выскачыла мыш...

— Мыш?! О, крый Божа!—І лёкай добрадушна засьмеяўся.

(*Дал й будзе*).



**ПОШЭСЦЬ У СМАЛЕНСКУ.**

(*Рысункі ўзяты с царственнага летапісца*).

Год 1092 наводзіў забабонны страх на жыхароў Беларусі; заўзятая вайна с Кіеўскімі князямі за старшэнство спустошыла і вылюдніла край. Ад безупыннай, страшэннай сьпекі усюды высахлі пасевы і травы; лясы і балоты самі сабой запаляліся і засьцілаў небо ў дзень чорны ўдушлівы дым, а ноччу асьвятлялася крывавым посьветам пажароў зямля. Настаў сташэнны голад. „Маткі ўласных дзяцей елі“, кажа летапісец; за голадам пайшлі хваробы, і страшэнная маровая зараза „чорная сьмерць,“ якая пустошыла вёскі і месты. У Смаленску с 60,000 жыхароў, не асталося нікога; большая палавіна вымерла, рэшта разбеглася. Разбуджонае да хворасьці ваабражэньне народнае ўва ўсім бачыло знакі страшэннага гневу Божага. А на год той быў паказаўшыся на небе мэтэор „хвастатая гвезда“, было зацьменьне сонца, было лёгкае трасеньне зямлі. На блізка сучасным рысунку, узятым с царственнага летапісца, пад нагалоўкам „Знаменьне на небе“, паказано як тагочасныя людзі яго сабе уяўлялі.



**ЗНАМЕНЬНЕ НА НЕБЕ.**

Расказывалі, што ў Полацку, кожды дзень а паўночы выходзілі з зямлі прызрачныя ездакі на агністых конях „тутоны“ і невідомымі стрэламі пабівалі людзей, дзеля гэтага са зьмеркам ўсякае жыцьцё у горадзе замірало і чутны былі толькі цяжкія ўздыханьні і малітвы запуджаных людзей.

# КРОНІКА.

**Жалобная імша.**

У панядзелак 6 кастрычніка а г. 10½ раніцы у касьцёлі сьв. Яна адбудзецца жалобная імша за душу сьв. пам. Івана Луцкевіча.

**Лік жыхароў м. Вільні.**

Паводле цыфр віленск цэнтр. статыст. бюро 1 кастрычніка ў Вільні было 138,112 жыхароў. Гэтакім чынам лік жыхароў м. Вільні праз апошні месяц павялічыўся на 1322 асобы.

**Беларускі хор.**

Нас паведамляюць, што ў хуткім часе маніцца прыехаць з Менска ў Вільню вядомы беларускі хор пад кіраўніцтвам Тэраўскага.

**Новая „беларуская“ часопісь.**

Паявілася новая часопісь „Зорка.“ Выдае яе „Straž kresowa“ і думае, што дру-

куе па беларуску, на жаль, там мала спатыкаем беларускіх слоў і або перакручаныя расейскія, або польскія. Ведама, што і правопісу „Зорка“ не прызнае ніякога... хіба свой уласны.

Мы ня будзем казаць аб палітычных мэтах, якія праводзіць у жыцьцё „Зорка“— фірма „Straż kresowa“ гаворыць сама за сябе, — мы хочам толькі адзначыць, што тыя, хто хоць трохі паважае справу беларускага адражэньня, ня мае права пісаць гэтакай дзіўнай мовай, бо гэта выглядае як зьдек над беларускай гутаркай,

„Зорка“ друкуецца ў Вільні, хаця адрэс рэдакцыі пададзены — Менск, Захараўская вул.

---

Нас просяць надрукаваць:

У Цэлендорфе пад Бярлінам 24 чэрвеня 1914 г. У санаторыі памёр дырэктар школы, колегіальны райчы, Александр Сергееў, жыхар м. Вільні; пасьля яго засталіся розныя рэчы. Насьледнікі няхай зьвернуцца ў цэнтр. Адрэсовае Бюро (Домініканская 2, пакой 147) і там дастануць далейшыя патрэбныя весткі.

## Пачтовая скрынка.

**З. Бядуле.** Праз п. З—а мы атрымалі толькі апаведаньне „Смерць пані“, якое пачынаем друкаваць у гэтым нумары. Больш нічога п. З. нам ня даў.

**А. Гаруну.** Матэрыял атрымалі. Дзякуем. „Бел. Жыц.“ высылаем.




**Рэдакцыя і Адміністрацыя:** Сьв. Міхальскі завул. 2, кв. 16. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Военнаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Квашэльная 23.